*Першая кніга паэта*

**Аксана Данільчык**

# Абрыс Скарпіёна

Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1996

ББК 84(4Беи)6
Д18
УДК 882.6-1

Серыя заснавана ў 1968 г.

П р а д м о в а
*Валянціны Коўтун*

ISBN 985-02-0304-8 ТУ''' 1 9 9 6

Аксана Данільчык нарадзілася 15 лістапада 1970 года ў Мінску. У 1988 годзе скончыла мінскую сярэднюю школу і паступіла на філалагічны факультэт БДУ. Цяпер — аспірантка інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Вершы друкаваліся ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Беларусь», у газетах «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацгва».

Жахліва? У гэтым і цуд,
У гэтым і абаяльнасць.
Людзі баяцца пакут,
А мараць пра геніяльнасць.

## «І ЗОРКІ ЎПАДУЦЬ ІСКРЫСТЫЯ...»

У маладых адметная філасофія прыгожага. На самым пачатку гэта яшчэ толькі спробы сумясціць несумяшчальнае — бунтарства генетычна закадзіраванага таленту. Пішу пра талент пошуку слова, праз які даволі часта набываецца чалавекам яшчэ адзін, не менш важны талент — талент стварэння ўласнага жыццёвага «гараскопа». Колькі разоў назірала, як другі талент, на жаль, перамагае першы, перамагае само паняцце творчай асобы. Але гэта ўжо крыху пазней. А спачатку... А спачатку нават у спробах намацаць першыя шурпатыя каменьчыкі на дарозе ў часавае і прасторавае вымярэнне творчасці ўжо заяўляе пра сваё існаванне магія... І гэта — магія паэзіі.

Прызнацца, люблю чытаць вершы маладых. Ці не таму найперш, што кожны радок напоўнены абяцаннем. Абяцаннем і нечаканага, і — знаёмага. Менавіта знаёмага яшчэ з тых гадоў, калі сакраментальнае «Когда б вы знали, из какого сора...» яшчэ не набыло статус абрыдлай «умудронасці». Калі паэзія пачынаецца яшчэ да накрэсленых на паперы слоў-сімвалаў:

А нехта з душой прамяністаю
Расчыніць натхненню дзверы,
І зоркі ўпадуць іскрыстыя
На чысты аркуш паперы.

Калі я чытала вершы Аксаны Данільчык, то найперш думала пра тое, што чакае ў гэтым жыцці маладую паэтэсу? — Росквіт безаглядная творчасці? Ці пераможа ўсё ж модны кірунак уладкоўваць жыццё паводле законаў перавагі матэрыяльнага над духоўным? Аднак час пакажа. Час — міне.

А цяпер... Цяпер яшчэ Аксана толькі прадчувае. Прадчувае жыццё і цесную сувязь чалавека найперш з прыродаю. Асабліва з прыродаю неразгадана-магічнага. І ў гэтым сваім прадчуванні маладая паэтэса настойліва спавядае Чысціню.

Зрэшты, яе першы зборнічак паэзіі бачыцца мне як пошук Сімвала чысціні.

І не згаджуся з раем развітацца.
Я назаўсёды тут хачу застацца,
Каб з прадчуваннем шчасця прачынацца,
Каб чысцінёю свету захапляцца.
Мяне не трэба з раю выганяць.

Няпроста будзе выхоўваць сваю волю і сваю Музу з такой звышзадачай. Звышзадачай пошуку і захавання ў сабе чысціні свету.

Аднак пажадаю паэтэсе толькі аднаго — зберагчы ў сабе магію паэзіі.

*Валянціна Коўтун*

* * *

*Я магу быць белай кропляй на зялёным сподку мора.*
*Я магу быць белай кропляй на лісце блакітным неба.*
*Я магу быць белай кропляй і на чорных стужках гора.*
*Ты вазьмі мяне ў далоні і не аддавай нікому.*
*Як пясок, сцякае хутка час пад цяжарам каменняў.*
*Я засну і зноў прачнуся белай кропляй сярод фарбаў.*
*І мастак рукой старannай рэчам дасць свае найменні,*
*І вакол жыццё пачнецца з новым імем незвычайным.*
*Гаспадар расставіў пасткі — за абдымкамі нябачна.*
*Мне даводзіцца вяртацца — ці то ў мора,*
*ці то ў неба.*
*Белай кропляй знікне ветразь.*
*Не лічы мяне няўдзячнай.*
*Гэта ўсё — гулянкі ветру.*
*Белай кроплі летуценнасць.*

# I

* * *

Прыйдзе і пойдзе. І ў цэлым свеце
Ніхто аб гэтым не будзе ведаць.
А ты пазнаеш па нейкай прыкмеце,
Што нараджаецца ў прыцемках недзе
Вобраз не вобраз, мара не мара,
Стан, што ніколі не выказаць словам,
Думка, што так над табой уладарыць,
Не баючыся расплаты суровай.
Сэрца прапаліць да самых нетраў
Кропля крыві на асфальце гарачым.
Пад трапяткім уздыханнем ветру
Нешта ў табе затрымціць і заплача.
Стогнам глухім рассыплюцца вокны,
Д'ябал і Бог не існуюць болей:
Іх галасы назаўсёды змоўкнуць
І не запыняць цябе ніколі.
Прыйдзе і пойдзе. Бясконцасць — імгненне.
Разам спляліся каханне і роздум.
Не адпускай. Не губляй натхнення.
Пройдзе жыццё, і тады будзе позна.

## ЧОРНАЯ МАГІЯ

Вачэй не закрывай.
Маланка проста ў сэрца.
Спалох лічы знявагаю.
І не хвалюйся, не бойся памерці.
Гэта — чорная магія.
Жахліва? У гэтым і цуд,
У гэтым і абаяльнасць.
Людзі баяцца пакут,
А марыць пра геніяльнасць.
Рызыкні. Хай рука не дрыжыць.
Нават калі атрута.
Якая розніца — жыць ці не жыць?
Калі не зведаў чароўных путаў.

Абяцаннем сілы прывабліваe
І забівае чорная магія.

* * *

А неба — зорнае, зорнае
І праменіцца як ніколі.
І ноч за фіранкамі чорнымі
Схавала і дрэвы, і поле.
Схавала, каб з нас пацешыцца,
Шукайце шляхі-сцяжыначкі...
Ледзь бачна старая алешына
Варушыць сваімі галінамі.
І зорка да зоркі туліцца,
І ноч без канца і пачатку.
І нехта аб нечым журыцца,
А нехта чакае світанку,
А нехта з душой прамяністаю
Расчыніць натхненню дзверы,
І зоркі ўпадуць іскрыстыя
На чысты аркуш паперы.

* * *

Мяне не трэба з раю выганяць.
Я так люблю салодкіх яблыняў духмянасць
І ветру райскага імклівасць, апантанасць.
Мяне не трэба з раю выганяць.
І для мяне шчэ яблык не даспеў.
Яшчэ анёлы не прынеслі мае крылы.
Ніштто душы не засмучае ганарлівай.
І для мяне шчэ яблык не даспеў.
Я не баюся адкусіць яго.
І не згаджуся з раем развітацца.
Я назаўсёды тут хачу застацца,
Каб з прадчуваннем шчасця прачынацца,
Каб чысцінёю свету захапляцца.
Мяне не трэба з раю выганяць.

* * *

Канала неба ў вогненнай рацэ.
Перасыпаўся дзень у мяккі вечар.
І водсвет драпінамі на шчацэ
Нагадваў пра кароткія сустрэчы.
Стамлёны горад дыхаў за акном,
А мы пілі чырвонае віно.

Разбіты і загублены сусвет
У зорных ланцугах не мае сілы.
Я вакны, быццам Новы Запавет,
Пакуль не згасла вера, адчыніла,
І сонца ратавальнае святло
Халодныя далоні апякло.

Змяню слязу на смех, на міласць — гнеў.
Зрабі мяне, Гасподзь, віном чырвоным.
Хай дапаможа тым, хто не пасмеў
Пачуць свой крок і вырвацца з палону.
Яны пілі. На вулку праз акно
Закапала чырвонае віно.

* * *

Погляд задумлівы юнага дзіва.
Сіла тваёй прыгажосці базмежна.
Толькі ці зрйбіць цябе шчаслівай
Бацькаў абраннік – кароль замежны?
Людзі чужыя, краіна чужая,
Радасць ці боль у грудзях забруіцца?
Знойдзеш крыніцу, з якой у адчаі
Зможаш цярпення і веры напіцца?
Коні імчаць па бацькоўскіх палетках.
Гэтакі лёс. Немагчыма вярнуцца.
Толькі ў Псалтыры засушанай кветкай
Край дарагі і юнацтва ўсміхнуцца.

* * *

Усміхнуўся без прычыны,
Адарву лісток у клёна.
Есць на свеце мой мужчына.
Есць кароль. Хоць без кароны.
Неабходнасці не маю
Дзень і ноч шукаць упарта.
Ліст кляновы абрываю,
Можа, смешкі, можа, жарты.
Вунь іх колькі — самых розных.
І направа і налева.
Гэты ранні, гэты позні,
Як пялёсткі, лісце дрэва.
Час мяне наўрад ці спыніць.
І другой ужо не зробіць.
Гніце, гніце свае спіны,
Сыпце, сыпце словаў дробязь.
Ані шкоды, ні карысці.
Толькі звон замучыў вушы.
Ох, ляці, ляці, мой лісцік,
З ветрам паяднайце душы.
Вось я. Тут. Капрызны нораў.
Супярэчнасцей звычайнасць.
І за знешняю пакорай
Злосных жартаў разнастайнасць.
Парадзела дрэўцаў крона.
Сціхлі пальцы-ручаіны.
І папраўдзе... Што карона?
Есць на свеце мой мужчына.

* * *

Неспакаваны чамадан. Раскіданыя рэчы.
І напалову чорны твар пад прыцемак крылом:
За пяць хвілін да адкрыцця, хвіліну да сустрэчы,
Ужо не тут, яшчэ не там — між цемрай і святлом.
З люстэрка цьмяны бляск вачэй ступіць у восень клікаў,
І па пакоі ледзь прыкметна воблака плыло.
Раздзерта неба да крыві палётам птушкі дзікай,
Якая ў дымнай вышыні развеяла цяпло.
Што ж — пакідаць дык пакідаць. Клубочак мой, кацiся
Сярод людзей, якім была і буду я чужой.
А ты, мой нечаканы рай, не знікні — засвяціся
І праз чужы далёкі свет дашлі мне голас свой.

* * *

Думка за думкаю, ласка за ласкаю.
Верыш, а гэта — казка за казкаю.
Не твая. Не твая.
Ведай.

Хіба не можаш пачуцці адрозніваць?
Хіба не бачыш насмешак у позірку?
Не твая. Не твая.
Ведай.

Без хналяванняў, сумненняў атрутлівых
Я адлятаю, калі надакучвае...
Не твая. Не твая.
Ведай.

Кропля за кропляй — дождж пачынаецца,
Кропля за кропляй — казка канчаецца...
Не твая. Не твая.
Ведай.

* * *

Раптоўны дождж. О, каб паспаць хоць трошкі!
У гэтым годзе цёплы сакавік.
Я ля акна скруцілася, як кошка,
Сяджу, свой сон павесіўшы на цвік.
Праходзіць радасць. Кроплямі з бакала
Па часе разлятаецца жыццё.
І галасы сярод начных кварталаў
Нясуць замест адчаю забыццё.
Я сёння веру. Абяцайце ружы
І вечнага кахання чысціню.
Не могуць згінуць пад абцасам душы.
Вы маніце? Ну, што ж, і я маню.
Хай сакавіцкі дождж паўзе па шыбе,
Блеф, серпанцін, прыгожая гульня.
Падобны свет вялікай цяжкай глыбе,
Дзе пасярэдку ўмуравана я.
І не адзін спыняўся падарожнік,
Спадзеючыся мармур абрабіць.
Чакай, прынцэса, мастака, што зможа
З камення чалавека сатварыць.

* * *

Блакіт у жоўтых берагах
Я не магу пераказаць.
Як і світанкаў росных пах,
І даўняй песні сенажаць.
Сядзець на даху і глядзець,
Як белай птушкі знікне день,
Як срэбра плавіцца ў вадзе,
І зноў сабраць яго хацець.
І каляровыя шляхі,
І вальс сцяжын лясных — для нас.
Што ні вазьмі, што ні пакінь —
Усё дарэчы і якраз.
І лісця соннае святло,
І дзень у сонцы і дажджах...
Ах, як даўно гэта было —
Блакіт у жоўтых берагах.

* * *

Я люблю безнадзейную восень.
Безнадзейнае лісце ў руках.
Безнадзейнасць вятроў, што прыносяць
Першы снег на прамёрзлы шлях.
Я люблю безнадзейнасць завулкаў,
Безнадзейнасць халодных пліт.
Ліст кляновы шукае прытулку
У загубленай стомай зямлі.
Я люблю безнадзейнае вецце
І агеньчыкі ў цемры начной,
І здаецца, усё ў гэтым свеце
Пад уладаю толькі адной
Безнадзейнай нязвыклай трывогі,
Прадчуванне снягоў і завей.
І апошні лісток над дарогай,
Як пастскрыптум мінулых падзей...

* * *

Калі прыходзіць лістапад
І мяккія свае далоні
Кладзе на змучаныя скроні
І робіць шэрым далягляд,
Калі праз злучанасць галін
Яшчэ відаць адзнакі сонца
І дрэваў плецівам бясконцым
Ён ловіць позірк не адзін,
Калі ў прыхільнасці вятроў
Знікае часу крок няспынны
І сыплюцца, бы журавіны,
З прыгоршчы скарбы даўніх сноў,
Тады на пошукі ахвяр
Нясецца з гікам паляванне.
У прадчуванні пакарання
Дрыжыць спалоханы абшар.
І першы нетаропкі снег
Ад капытоў ураз счарнее,
І свет, жахнуўшыся, нямее
І шэпча: «Божа, ў чым мой грэх?»
Ды толькі коней прыпыніць
Ужо і Бог не дапаможа.
Стаіць душа на раздарожжы
З адвечным болем — быць не быць...

А ты не раб і не суддзя.
Шумяць балотныя яліны...
Чужых пакут і слёз тканіна
Тваім жыццём знайшла працяг.

* * *

І гэта маё жыццё.
Нават не верыцца.
За вокнамі — ветру выццё,
Чэрці на лесвіцы.
Заходзьце, мае сябры,
У сціплы дом. Аж да самай
Світанкавае пары
Прабудзеце тут гасцямі.
Чорт усміхаецца мне
З позіркам хітраватым.
Бегаюць па сцяне
Рыжыя чарцяняты.
Вы раскажыце, як злосць
Круціць людзей да здранцвення,
А пачастунак вам ёсць —
Хібы майго сумлення.
Раніцай пойдзе снег.
Страчана і пакорна
Зноўку пачне свой бег
Непазнаваемы горад. _
Ціха над ім праляцяць
Чэрці і чарцяняты.
І запяюць, зазвіняць
Сняжынкі ў поўсці калматай.

* * *

Звычайны снег над светам незвычайным,
Дзе птушку нам блакітную лавіць,
Дзе кожны дзень, як ракавінка тая,
Гатовы перламутрам адарыць,
Дзе ўздыхі хваляў з голасам сальюцца,
Успыхне напамінам бэзу май...
Дзе нам было так лёгка размінуцца,
Калі б не шэпт жаданы: «Пачакай».

Звычайны свет пад незвычайным снегам,
Які схаваў няёмкасці грахоў.
У галаве гучыць салодкім рэхам:
«Ты вернешся, ты вернешся ізноў?»
Не будуць сёння флейты граць бязладна.
Іду ракой зімовага цяпла
І ведаю, што пад маёй уладай
Ствараць далей ці разбураць палац.

* * *

Вечар песню гушкаў
На вятрах зялёных.
Прыляталі птушкі
Да тваіх далоняў.
І святлом ласкавым
Цешыўся-гуляўся
Той бурштын яскравы,
Што за лес хаваўся.

Закрывалі кветкі
Стомленыя вочы,
Да зямлі ў адведкі
Маладзік пакрочыў.
І спявалі ціха
Птушкі на далонях.
І пяшчотна дыхаў
Луг неапылёны.

За ракой, за рэчкай
Туманоў сутонне.
Запалілі свечку
Мілыя далоні.
Вось чырвонай стужкай
Заігралі хвалі,
Адляцелі птушкі.
І цябе забралі.

* * *

Чорным колерам свет. За сцяною сцяна.
За каменнем каменне, і слова за словам.
Дзве істоты, дзве сутнасці — ён і яна.
— Ты кахаеш мяне? — Чуеш, вецер паўднёвы
Прынясе з Адрыятыкі лёгкасць і соль,
Там бурштынамі мора свавольна гуляе,
Пачакаць мне цяпла яшчэ трошкі дазволь.
Толькі ты... — Я таксама з табой пачакаю.

Чорным колерам свет. Зорным попелам дах.
І над дахам схіляюцца дрэвы, як хмары.
Запраменіцца знічка ў стамлёных руках.
— Ты кахаеш мяне? — Будзе ноч, і пачвары
Павылазяць аднойчы з начных гушчароў,
Каб душу маю ўзяць і забраць мае сэрца,
Развітацца са мною, скажы, ты гатоў?
— Я цябе не аддам. Ты не можаш памерці.

Зацярушаны лісцем маленькі сусвет.
За імгненнем імгненне старонкі гартае.
Адбівалася шэптам у мяккай траве.
— Ты кахаеш мяне? — Я цябе адчуваю.

* * *

Я — дождж, што ад стомы
Заўсёды цябе абуджае.
Мелодыяй сумна-знаёмай
Твой роздум суправаджае.
Пранізлівым ранкам
Ледзь-ледзь да шкла дакрануся,
Вымыю вокны старанна,
Знікну і зноў вярнуся.
Я — дождж, што гуляе
У даганялкі з табою,
Што востраў не пакідае,
Дзе ты шукаеш спакою.
Над пылам і спёкай,
Звычайнасцю кожнай хвіліны
Заззяю вясёлкай,
Рассыплюся ў ручаінах.
Я — дождж, што дарує,
Што стане малітвай аднойчы.
Я — дождж, што цалуе
Сінія твае вочы.

**НАПЯРЭДАДНІ**

Упалі нябёсы.
Самкнуліся дзве стыхіі.
Уладай вачэй раскосых
Абход пачалі вартавыя.

Дзён чарада...
Быццам вада.

Узмах ганаровы.
Дождж недарэчна ўсхліпнуў.
Рухаў альянс нервовых,
Мроіва пахаў ліпкіх.

Слёзы вады.
Асколкі слюды.

Стань на калені.
Кожны прыгнечаны смагай.
Крывавых гранатаў адценні
На скуры пяшчотнай. Чакаць працягу?

Вусны твае...
Што настае?

* * *

Сінія шкельцы пабітага нечага
Густа ўсалі асфальт.
Перабягае барвовае рэчыва.
Момант — разладжаны альт.
Так на ўспрыманні капрызнай мелодыі
Шэрая пляма расце.
Вы пацалунак тут не знаходзілі?
Хопіць. Паліце гасцей.
Раз — цыгарэту, а раз — пакамечаны
З чорнай аздобаю ліст.
Перабягае барвовае рэчыва
Горад каменнай зямлі.
І пачынаецца пошук прыніжаных.
Сутнасць імгнення — адчай.
І на кірунках сляпых чарнакніжнікаў
Дотык рукі да пляча.

* * *

І вось тады прыходзіць час.
Стаю на зорным скрыжаванні
Разгубленай. Які ўжо раз
Прымае вещце дождж-стагнанне.
Фламэнка водбліскі дрыжаць,
Рамонкі звянуць не паспелі,
У невядомае ляцяць
Мае вар'яцкія арэлі.
Баяцца вуснаў, словаў, слёз?
Усё вяртаецца ўспамінам.
І ад якіх такіх пагроз
Магчыма зорны свет пакінуць?
Калі ж знайду пусты пакой
І развітальны ліст паперы,
То прыме плынь ракі начной
І вынесе на срэбны бераг.
А там — бясконцы зарапад,
Там свет ад шчасця неразумных.
Там азіраюцца назад
З усмешкаю пяшчотна-сумнай.

* * *

Лёгкі пачатак, лёгкі канец.
Добра, няма абавязкаў.
Нават калі пад сэрцам свінец,
Знешне — усё ідзе гладка.
Можна смяяцца і можна ілгаць.
Белыя байкі — у смецце.
І немагчыма ўжо праспяваць
Лепшыя песні ў свеце.
Скрывіць усмешка брудныя рты —
І да цябе даходзіць,
Што не ўплятаешся ў прозу ты,
А паэтычнасць праходзіць.
Што не вяртаецца болей спакой.
Боль жа — не суд, а расправа.
Вільгаці кропляй — жорсткай слязой
Плаціш за гэту забаву.
Выйсце — дзе выйсце? У цемру акно
Лепш за святло і пашану.
Добра ці дрэнна — там не відно,
Хай супакоіцца рана.
Ветру начному сябе даручыць.
Ветру ў вялізазных маках.
Хай пагуляе. А мы будзем жыць
Без перамен аніякіх.

* * *

Сплываюць зялёныя колеры.
Робіцца млоснай вада.
Над птушанятамі кволымі
Дзіка рагоча бяда.
Вочы агідна-ласкавыя
Хочуць з зямлёй паяднаць.
Моцныя стануць забаваю,
Пойдзе кароль жабраваць.
Поўніцца чорнымі крыкамі
Бераг надзеі жывой.
Пэўна, раскоша вялікая —
Быць і застацца слабой.
Крону не ступіш — трохкутнікі.
Жах паміжволі кране.
Мілы, нашто мне пакутаваць?
Абарані мяне.

* * *

Хоча жомчуг неба прычакаць,
Свет, дзе ён пад промнямі заззяе.
Нечая жалезная рука
Сэрца, сціснуўшы, маё не выпускае.
Хто, навошта — мне не адказаць.
Цар марскі, здымі праклён балючы.
І яго ты зможаш пахаваць
У сваёй стыхіі неўміручай.
Быццам жах, ці, можа, быццам стогн,
Ці туман, які цяпло зганяе.
З грукатам ляціць пусты вагон.
Мора, адпусці. Я паміраю.

* * *

Я ведаю, што раблю.
Не стрымлівайце мяне.
Я горкія кроплі люблю.
А гэты партрэт на сцяне
Даўно не турбуе. Не.

Я ведаю, як знайсці
Сябе. Я цяпер магу
Карункі ўчынкаў плясці,
Сядзець нага за нагу.
Я болей не пабягу.

У самую чорную ноч,
У самы найлепшы дзень
Рука не знямее. Кроч
Па зямлі. А я па вадзе,
Ды ўжо не насустрач бядзе.

Квецень рабіны збяру,
За мною ён паплыве.
Я ведаю ўсё. Даруй —
Ні ў сэрцы, ні ў галаве.
Жыве скарпіён. Жыве.

Хоць сонца — сляпое вока
І саванам белым аблокі...

* * *

Каханне змываюць крывёю.
Нават сваёю.

Вусны ўжо не дрыжаць.
Я не баюся нажа.

Цяжарам да зямлі.
Чорныя ружы плылі.

Сон. Безназоўнасць падзей.
Мілыя твары дзяцей.

І Мефістофеля твар:
«Сэрца таксама тавар».

Каханне змываюць крывёю.
Нават сваёю.

* * *

Адкружыць, адспяваць і адплакаць каханне.
І забыць, і ніякаму ўжо не маліцца званку...
Дождж — сама абыякавасць змые старое паданне.
Што напісана іерогліфамі на цярплівым пяску.
Без пачуццяў — хоць гэта набытак каштоўны —
Твар падставіць дажджам, іх прышэсце,
як споведзь, прынядь.
Пачынаюць будынкі і дрэвы мяняцца няўлоўна
І здаецца,
Што мокраму гораду цяжка на месцы стаяць.
Хто цябе прымушаў зноў і зноў даравадь
і вяртацца
І то крыўды, то здрады, то байкі глытаць...
Вось цяпер і блукай па дажджы,
і шукай абяцаных палацаў,
І старанна забытыя назвы завулкаў чытай.
Пройдзеш раз. Пройдзеш два. Пройдзеш тры.
І чатыры. І болей.
Зразумееш нарэшце — замкнёнае кола. Дарэмна.
Пакінь.
Будзе плакаць матуля — прынесла, маўляў,
у прыполе...
Боль, ён твой. І яго не падзеліш ні з кім.

* * *

Скалелыя пальчыкі пішуць,
У коўдру закутаны аўтар.
Зацішша... зацішша... зацішша.
І ўчора, і сёння, і заўтра.
І сонца з'яўленне як вынік
Сляпога начэй чараўніцтва.
Пакінуць... пакінуць... пакінуць.
І што? Ля каго прыпыніцца?
Над домам у злосці і жалю
Імклівая лятала завея.
Дрыжалі... дрыжалі... дрыжалі.
У дрэваў спалохана веі.
Асветлена полымя ззяннем
Усё ад падлогі да столі.
Каханне... каханне... каханне...
Ні ўчора, ні заўтра. Ніколі.

* * *

Вясна. Халодны вецер.
Трапятанне галін.
Нечаканая сустрэча.
Бляск і сум — успамін.
— Ты не змянілася...
— А ты спадзяваўся?..
— Так, быў час...
— А што ты для гэтага зрабіў?
Маўчанне. Шэрыя камяні.
Застыглыя ў самоце дні.

* * *

Я супакоюся, вядома,
І не закрыю твару болей.
І нават трызненнем знаёмым
Ты мне не з'явішся. Даволі.
О час! І жорсткі дрот калючы,
І літасцівы подых хвалі.
Так, пад рукой тваёй рашучай
Парвуцца мар маіх каралі.
І шэптам ціха-развітальным
Услед ім звон царквы памкнецца.
Спакой насмешліва-звычайны
У шкле палацаў адаб'ецца.
Малюнкі на вадзе ствараю,
Ды што ад іх лісту рачному?
Я толькі п'есу адыграю
І супакоюся, вядома.

* * *

Ад вачэй цікаўных за шырокім полем
Плакалі жанчыны аб спрадвечнай долі.

Плакалі жанчыны аб нядобрых людзях
Над ракой, дзе сонца позні промень студзіць.

Над ракой, дзе ногі босыя калеюць,
Кожная слязінка — белая лілея.

Кожная слязінка лёс пераіначыць.
Поўніліся вочы развітальным плачам.

Поўніліся вочы светлаю журбою
Над ракой, што стала чыстаю слязою.

* * *

*Алене*

Скончыцца мёртвы сезон.
Пачакай яшчэ трошкі.
Прыцемкам наўздагон
Паляціць блаславёна: «Бывай!»
І рубінамі сонечных слёз
Пад твае грацыёзныя ножкі
Лягуць пыркі ўспамінаў. І вось
Развітанне нарэшце. Няхай.

І праз цемру па срэбнай шашы,
Дзе стралу за стралою
Поўня кідае — шлях. Не пішы -
Заўтра раніцай выкінеш вон.
Хай шчымліва паветра звініць
Над тваёй галавою.
Ды наперадзе дождж зіхаціць
Прадчуваннем хвалюючых дзён.

Горад — іголка і шво.
Расчыняюцца дзверы.
Неба, хвалі і цёплым пітвом
Зноў стамлёны вяртаецца сон.
І блакітны палёт. А куды?..
Дзесяць слоў на паперы...
Рукі ночы, і вецер, і дым.
Гэта скончыўся мёртвы сезон.

## II

### «БАЛЕРО» РАВЕЛЯ

Ты зможаш, ты зможаш, ты зможаш!
Сонца хітра, як рыжы ліс,
Адыходзіла ціхім кронам.
Вечар белы камячыў ліст,
Адпраўляючы дзень за аблокі.
Снежань бель па зямлі расцёр,
Халады завастрылі джала,
І над сціснутым часам жыццём
То з'ўлялася, то знікала:
Ты зможаш, ты зможаш, ты зможаш...
Я змагу, я змагу, я змагу...
Так прачнуўся зняволены дух.
Так прарваўся знясілены голас.
Першабытнай свядомасці рух
За мяжой рэчаіснага кола.
Перавітыя стужкай агнёў,
Гарады расціскалі далоні...
Танцавала на дахах дамоў
Адкрыццё ў зіхатлівай кароне:
Я змагу, я змагу, я змагу!

* * *

Скарпіён.
І вочы залатыя.
Помніць ён,
Што мы адной стыхіі.
Наўздагон
Жартоўнасці злавеснай
Скарпіён
І з попелу ўваскрэсне.
У журбе,
У знямозе я пачую.
І табе
Атруту падрыхтую.
Ты — мой звер,
Мой цуд і абаронца.
Вер — не вер,
А шлях мой не бясконцы.
Звон вады.
Калісьці я спынюся.
І тады
Я да цябе вярнуся.

* * *

Ноч збірае цьмянасць. Галасоў палон. Адпачывай.
І дрогкі горад цягне рукі без пальчаткаў белых.
Як быць не быць, так цалаваць не цалаваць.
І музыка разбітым шклом без шкадавання рэжа цела.
Ноч забірае ўсё. І пакідае дзень. Трымай.
Ці той, што быў, ці той, што потым будзе.
Ды вызначаецца дарогамі трыма
Надзея, і яе паўночны вецер не астудзіць.
Сталёвы дах і кропель зарапад
Яшчэ далёка. Блізка-вулкі ў ззянні завірухі.
Пранізлівы ад холаду світанак. Крок назад.
Блуканне... Што ж, таксама гэта спосаб руху.

* * *

Застацца сумным і святым успамінам.
Адзіны рух — на шлях да небыцця.
Шыпшынай белай быць і быць жанчынай
У гэтым сэнс, пачатак і працяг.
Усё само сабою. Нехта гоніць
Жыццё без асаблівасцей прыкмет.
Ды дакранецца полымя далоні
І свой пякучы ёй пакіне след.
А што лісты? Хто помніць, хто не помніць
Куды бягуць сцяжынак ручаі.
І чалавек у стане непрытомным
Жывой вадою просіць напаіць.
Вазьмі — для гэтага не трэба красці.
Не трэба і жыццём ахвяраваць.
Застацца сумным і далёкім шчасцем,
Якое давядзецца ўспамінаць.

* * *

Дрэнна без падману і з падманам дрэнна.
Шамаценне думак, горыч палыну.
У цябе ўпусціла прагнае карэнне
Ці імгненнасць часу, ці імгненнасць сну.
У вадзе сцюдзёнай гінуць белы рукі,
Ды сагрэе ўспышка рыжых валасоў.
Немагчымы вецер. Як жа без прынукі
Ад даліны ружаў ратавацца зноў
Погляд накіроўваць у зямлю не гожа,
Пах прыемны кавы, кветкі на стале.
Пусціш з горкі кола і ўтрымаць не зможаш,
Кацішся са смехам сам за ім услед.

* * *

Мора — падзяка стамлёнаму целу.
А галаве дурной,
Той, што разумнаю быць не умела,
Мора дае сваё дно.
Мора — пяшчотнай трывогі праява
І адкрыццё цяпла.
Твой падарунак горкай прыправай
Кінуць на край стала.
Хай хараство асалоды святкуе
Плыняў насмешлівы рух.
Толькі твая незалежнасць ратуе
Ад надакучлівых рук.
З мора мы выйшлі, і ў мора вяртае
Зерне жывое ралля.
Мора ў бяздонных палацах схавае
Усё, што не цэніць зямля.

* * *

Сёння мне прыснілася жанчына.
Я не бачыла яе ніколі.
А яна не ведае, магчыма,
Што я нават існую на свеце.
Нечаканае яе з'яўленне
Сярод свята, дзе і я спявала,
Выклікала смутную трывогу,
І адразу сцішыўся мой голас.
Ноч пад вартай ліхтароў нястомных,
У якой рабіны адцвіталі,
Закрывала твар яе, а словы
Засталіся паміж ёй і...
Госпадзі! Яна дзіця чакала.
І яно было павінна хутка
Нарадзіцца. Ад майго каханага дзіця...
Я не ведаю, што сон той значыць...

**СТОМА**

1
Існуе толькі адно слова — стома.
Яна ва ўсіх частках цела.
Яна ў паветры, якім дыхалі больш за сто чалавек
І якое ўжо даводзіць да ачмурэння.
Яна выліваецца разам са святлом
З сіметрычна прыладжаных лямпаў.
Яна ў голасе, які стаў суцэльным гулам
І паволі сціскае галаву.
Сцены і чорныя вокны аддзялілі
Маленькі свет ад вялікага.
Прастора насычана стомай.
І тыя, хто вымушаны быць тут,
Маюць адно жаданне, адзін намер —
Крыкнуць: «Пазбаўце нас ад гэтай пакуты!»
Але ніхто не спяшаецца іх ратаваць.

2
Смерці цёплыя абдымкі ў захапляючым кружэнні
Аддзяляюць нас ад свету, дзе каханне засталося.
Не струменяць рэчкі венаў. Заціхаюць галашэнні.
Пачакай, і нехта скажа: «Ну, нарэшце адбылося».
Смерці цёплыя абдымкі адкрываюць змест сакральны
Кніг старых і песень даўніх, што калісьці мы чыталі.
Праплываюцьтвары продкаўз ціхім гулам пахавальным
Патрабуюць пакарання Маісеевы стрыжалі.
Я баюся гэтых ценяў ці то пекла, ці то раю.
Ды з якіх часоў свядомасць пачала мая хістацца?
Падымаю стойка вейкі. Значыць — я яшчэ жывая...
Гэта стома. Толькі стома. І няма чаго баяцца.

* * *

Загубленую далеч шукае ветру крык.
Зашмальцаваных вулак мінаю сутарэнне.
Сярод папер і пылу адчайны плач узнік,
Сярод папер і пылу — звычайнае здарэнне.
Асфальт рыпіць стамлёна пад коламі машын.
І галубоў ганяюць скляпоў цагляных дзеці.
Высокі дзень няўмольна дажджом зацерушыў
Дамоў старыя дахі, і пыл, і плач, і вецер.
На клавішах лагодных адрынутай душы
Імправізуе горад і песціць подых нечы.
Туман малюнка контур і фарбы прыглушыў,
Заззяў ліхтар павольна, і нарадзіўся вечар.

* * *

А людзі глядзелі, як тонкія рукі
Жалобных сплягалі мелодыі спеваў,
У іх спасціжэнне няхітрай навукі,
Хвілінных сустрэч сярод спаленых дрэваў.
А людзі глядзелі, як чуйныя вусны
Складалі малюнак аб вечных блуканнях.
Аб душах цнатлівых, аб целе распусным,
Якому адхлання няма да змяркання.
І слухалі людзі, як вочы жанчыны
Казалі аб лёсе разлучаных духаў.
Казалі, што трэба спыніцца гадзінам
І, можа, адчуецца містыка рухаў.
І думалі людзі, што гэта пачатак,
Што сонечны колер нясе толькі радасць.
І толькі яна заўважала пячатку,
Якой адзначаюць абраннікаў здрады.

* * *

Кожны чалавек паўтарае
Лёс Маленькага Прынца.
Таму што ён, чалавек,
Адзін у Сусвеце.
Сябры з часам пакідаюць яго —
У іх свае шляхі і свае справы.
Карункавая мроя — каханне —
Дорыць шчасце дваім з тысячы.
І не пазбавіцца непазбежнага,
Як не дасягнуць дасканаласці.
Адзінота разліваецца чорнай кавай.
Чалавек пакутуе ў сутарэннях
Уласнай душы.
І толькі адно існуе выратаванне —
Пацалунак Кобры.

* * *

Шоргат павольны кроплі па шкле,
Жоўтай атрутай лімон.
Я не хачу быць дажджом, але
Неба ідзе на паклон.
Бляск каласоў у маім вянку
Гасіць бязмежная сінь.
Як жа знайсці па кляновым лістку
Шлях да марскіх глыбінь?
Заклік маланкай вочы апёк,
Іх не адкрыю больш.
Ах, залацістых лімонаў сок,
Прагу дажджоў задаволь.

* * *

Нота апошняя. Яблыкі спелыя
Кінуць бы ў зорны абрыс Скарпіёна.
Можа, таму, што жыць не хацелася,
Памяць знішчала ўспышак мільёны.
Нейкім вар'ятам з нахабнымі жэстамі
Быў на кавалачкі флюгер пакрышаны
Яблык зваліўся нядобраю весткаю —
Лічбы гадзінніка самі ўсё вырашаць.
У галаве, ад развагі ачышчанай,
Прывіды сну. Пачало развідняцца.
Нешта плыло між каменнем і лісцямі:
Гэта было адчуванне жабрацтва.

* * *

Проста сум у вачах,
Проста дождж па плячах,
Проста раніца хмурная нейкая.
І шляхоў не знайсці,
І — пайсці не пайсці —
Цягнікі адгукаюцца рэйкамі.

Заклапочаны свет.
Кожны мае білет.
Я ж — дык нават дарогі не ведаю.
І ў сэрцы дрыжыць:
Памажы... падкажы...
Не пакінь мяне перад нязведаным.

* * *

Цішыня і спакой.
Дацягнуцца б рукой —
І акраец узнёслага неба
Адламаць і дзяліць між сябрамі,
Што пакуль яшчэ тут, яшчэ з намі.

Так нядоўга лятаць,
Так нядоўга чакаць,
У абдымках палёў красавіцкіх
Жаўруковымі спевамі марыць...
Над жыццём пахаванне ўладарыць.

Чым ад хрэсьбін далей,
Тым усё даражэй
Нам усмешкі сяброў і каханых,
І аб смерці спыняюцца словы
Пад бурштынавым сонцам вясновым.

* * *

Маленькае дзіва з сінімі вачанятамі,
Ты, здаецца, усё разумееш:
І чаму замест сонечнага вітання
Ідзе бясконцы дождж.
І цікаўныя погляды, і крык журавоў,
І лёгкасць слоў, і складанасць думак.
І нават тое, што ў заблытаных адносінах
Ты часта будзеш заставацца адзін.
І слёзы матулі, і сумную прадгісторыю
Свайго нараджэння.
А я не магу схаваць цябе
Ад расчараванняў.

* * *

Спі, дзіцятка, спі.
Хай прысніцца табе мора,
На паверхні якога гайдаецца сонца.
Ці адзіны твой абаронца
І званы залатога сабора.
Спі, дзіцятка, спі.
Хай забудуцца жорсткія людзі,
І шкляныя іх твары, і словы.
Калыханка жыццю прадмовай
І яго блаславеннем будзе.
Спі, дзіцятка, спі.
Сярод жнівеньскіх сонечных фарбаў
Зробіш самыя першыя крокі.
Ты пабачыш і вір глыбокі,
І нябёсаў расчыненых скарбы.
Спі, дзіцятка, спі.

* * *

Дзень праходзіць ледзь улоўнай,
ледзь прыкметнай шэрай зданию.
І даўно знаёмы голас адчуванняў
не нясе.
Неразумнага дзіцяці неразумныя
жаданні
Паміраюць, паміраюць, паміраюць
пакрысе.
Свет і жорсткі і прывабны, свет
бязлітасны і мілы,
Трэба некаму заўсёды аддаваць
цяпло рукі.
Стогнуць, плачуць, і шкадуюць,
і дарэмна трацяць сілы.
Не турбуйся, не хвалюйся — гэта
проста час такі.
Ну і што, калі адыдзе абяцанняў
легкадумнасць,
Усміхаешся нарэшце і святочны
ўбор адзень,
Пасядзім у адзіноце. Ты становішся разумнай.
І праходзіць шэрай зданию
нараджэння светлы дзень.

* * *

Расчыняюцца дзверы. Зачыняюцца дзверы.
Спатыкаецца ў зале паранены вецер.
Толькі крок — і бясконцасць намераў.
Асцярожна: ніхто не прыкмеціць.
Гэта сонная восень. Разгублены ранак.
Цьмяны водсвет завулкаў і мокрае лісце.
Гэта час, калі можна падлічаваць раны
І павольна гайдацца на хвалях: «Калісьці..
Ці пакінуць свой дом без усякай нагоды
І пайсці ненадоўга ў краіну папрокаў.
Срэбным змеем уецца ля ног прахалода,
І хаваецца ў дыме туман шэравокі.
А калі адчуваннем становіцца вольна
Моўчкі позірк спыніць на знаёмай старонцы.
Там напісана: «Снег прылятае няўмольна,
І за вэлюмам неба паблісквае сонца»...

* * *

*Э.А.*

Ты сніш аб полымі ў расе
І кажаш, што не твой ён, горад.
Што фарбы зніклі тут усе
І не відаць на небе зорак.
Ды ноч найлепшы свой санет
Табе раскажа, можа, стацца,
Што зоркі пакідаюць свет,
Каб на асфальце рассыпацца.

* * *

Сярод нечаканых памкненняў
Паўночны разносіцца звон.
На круглым гарачым каменні
Паранены спаў скарпіён.
Пакутлівым сцішаным болем
Знямоглае цела дрыжыць,
І мроіцца сонца над полем,
Дзе вораг забіты ляжыць.
І мроіцца ціхая радасць
Далёкай вандроўнай пары
У шэпце збуцвелага саду
На схіле высокай гары.
Сцякаліся зоркі ў даліну,
У чыстую плынь туманоў.
І неслі старыя жанчыны
Лімоны, міндаль і віно.
Як толькі зара абвясціла,
Што скончыўся цемры праклён,
Сабраўшы апошнія сілы,
Паранены знік скарпіён.

* * *

Падхапілі вятры пяшчотныя
І прынеслі ў раніцу белую.
На далоні празрыста-вільготныя
Апусцілі душу збалелую.
Вызваленне і моц прарочылі
Калыханкай-малітвай нягучнаю,
Акуналі ў раку малочную,
Забіралі слязінкі цягучыя.
Глыбіню паказалі глыбокую,
Усміхаліся вочы вялікія...
І ў вясновую ноч срэбразвонную
Да святога аблічча паклікалі...

* * *

Я чула ноч. Дзе ў спектры сонных гукаў
Пагойдваліся промні ліхтароў.
Дзе правады — слупоў магутных рукі
Чыгунку аплялі з усіх бакоў.
Нябёсы сіняй фарбаю сцякалі
На белае адзенне цішыні.
Як па загаду цемры паміралі
Нязмораныя познія агні.
Заломленае вецце абтрасала
Снягі, што завіруха намяла.
Шкада, бо ты на ганку прастаяла
І слухаць ноч са мною не пайшла.

**ЗІМОВЫЯ СУТКІ**

Маладзіка abломак успыхнуў ратавальна.
І сонечнай агоніяй пафарбаваны рэчы.
Кароткі час на роздум. З усмешкай абаяльнай
Па лесвіцы нябачнай спусціўся ў горад вечар.

Змятае перашкоды ўладарнаю рукою
І пад абрусам чорным хавае спакушэнні.
Шкляныя б'юцца цацкі. У цьмяным неспакоі
Святкуе горад ночы ўрачыстае з'яўленне.

Без плёскату авацый. З самотнымі агнямі.
Пад лёгкае дыханне дрэваў заі'нелых
І стук трамваяў першых пустэльнымі дварамі
У горад уваходзіць раніца нясмела.

Скамечаны нагамі снягоў карункі белых.
У цішыню пакояў гадзіннік уварваўся.
Адкінуты фіранкі. Таемнасць адляцела.
Турбот знаёмы голас. І дню адлік пачаўся.

Маладзіка абломак успыхнуў ратавальна...

**НА МАТЫЎ «ЗАЛАТОЙ РЫБКІ»**

Заўсёды будзе нешта свет азмрочваць.
Вось перад морам, што валы шпурляе,
Сядзіць старая ля пабітых ночваў
І тупавата ў ночвы пазірае.
Была дваранкай і была царыцай,
Мужчын любіла і дзядка прагнала
І вось цяпер не можа надзівіцца —
Узнікла раптам, раптам і прапала.
Хацелася ўсяго — няма нічога,
І шкадаваць ужо не стала сілы.
Перад пустымі ночвамі нябога
Успамінае час далёкі, мілы.
Хвастом вільнула залатая рыба
І паплыла ў далёкія прасторы.
І па запыленых маленькіх шыбах
Сцякае, можа, дождж, а можа, гора.
Не павярнуць і не знайсці надзеі.
Ды перад смерцю можна ганарыцца
Хаця б адною у жыцці падзеяй —
Усё ж такі яна была царыцай.
Ды з гонару карысці аніякай,
І доўгія бязрадасныя ночы
Яна сядзіць пакрыўджаным сабакам
І тупавата пазірае ў ночвы.

* * *

Там святары. Тут — вар'ят на вар'яце,
Злодзей на злодзеі — чорны сцяг.
Не забівайце майго дзіцяці,
Не забірайце майго жыцця.
Недзе над горадам попел гарачы,
Круціцца і асядае ў руках.
Сэрца адчуе, розум зазначыць,
І неадольны ахопвае жах.
Там чысціня. Тут у брудзе і смерці
Прагна жадаюць нечай крыві,
Быццам бы розныя сонцы свецяць,
І невядома, ці ёсць хто «жывы».
Тут не баяцца гонар свой страціць,
Здрада — звычайна напеваў працяг.
Не забівайце майго дзіцяці,
Не забірайце майго жыцця.
Там хараство. Тут — калецтва пачварнасць,
Тут не адводзяць вачэй ад зямлі.
І намаганняў штодзённую марнасць
З шумам пустэчы да ног падняслі.
Твараў бясколернасць — вынік адразу.
Ціха спалоханай шэпчаш душой:
«Свет, дзе губляецца сутнасць часу,
Я не хачу быць ахвярай тваёй».

* * *

*Н-му*

Аб чым ты думаеш, мой стомлены анёл,
Калі сярод таварышаў нязграбных
Ты абыякава глядзіш на стол,
Дзе нацюрморт даволі непрывабны.
Аб чым ты думаеш, мой мілы чалавек,
Пад час гульні ў задымленым пакоі
І сумна пазіраеш з-пад павек,
Як льюць пітво пагібельнай ракою.
Аб чым ты думаеш, бяскрылы Дон Жуан,
Сярод жанчын, ахопленых жаданнем?
Іх не цікавіць, што нясе падман
Тваё непараўнальнае каханне.
Аб чым ты думаеш пад бразгаценне слоў,
Якімі сыплюць страчаныя людзі?
Сярод сваіх, сярод чужых грахоў
Якому Богу ты маліцца будзеш?
І супярэчнасцей ужо нядобры знак
Навіс пагрозай над тваім дыханнем.
Аб чым ты думаеш, мой стомлены жабрак,
Ці знойдзеш ты сабе выратаванне?

* * *

Прайшла пара чырвонага віна.
Спакойныя, разважлівыя людзі
Не падыходзяць болей да акна
І кулаком сябе не б'юць у грудзі.
Усё перамянілася даўно,
І зараз льецца белае віно.

Пад цяжарам бясколерных нябёс
Згінае спіну горад састарэлы.
І пазірае змучаны Хрыстос,
Як заліваюць свет напоем белым.
Не чуць, не бачыць, шкоды не рабіць,
Не адчуваць, а можа, і не быць.

Апалены маланкавым дажджом,
Загінуў самы верны спадарожнік.
І я перад зачыненым акном
Стаю сярод людзей з душой парожняй.
За белым шклом заблытанасці дно.
І льецца кіславатае віно...

* * *

Алоўкі і пэндзлі ляжаць на стале.
А вочы імкнуцца мінулае ўбачыць.
Над безданню ў жыце губляецца след
І ножак маленькіх, і думак дзіцячых.
Рукой правядзі па халодным ілбе,
Схавай асцярожна пустэчы адбітак.
І стане зусім зразумела табе,
І дзе тая бездань, і дзе тое жыта.
Паперу па-свойму пакрэмзае лёс.
І некуды бегчы не так ужо проста,
Ды ветрам пакліча з жытнёвых палёў
Віхур адчуванняў шчымлівых і вострых.
У прыцемкаў час паглядзі за мяжу,
Там зноўку маленькія ножкі ступаюць.
Пад кроплямі летняй раскошы дажджу,
Над безданню ў жыце, што ўсіх нас чакае.

* * *

І пачаўся нечаканы дождж.
Над галінамі забытых сосен
Шэры коннік праскакаў па лесе.
Пад далонямі самотнай смерці
Закрывалі вочы летуценні.
Не будзіце сэрца. Нават
Ціхім-ціхім стукам у акенца.
Пройдзе дождж, і застанецца гоман.
І дажджом спалоханыя птушкі.
Над дарогай застывае рэха.
Чалавек становіцца дарослым
І ніколі болей не паверыць,
Што зямля дажджу гаворыць: «Дзякуй».

* * *

Вось і ўсё. І застаецца лес.
З ланцужкамі сонечных праменняў,
З сумным поглядам лясных стварэнняў.
У гаючым жнівеньскім цяпле.
Сузіранне сосен і нябёс.
Легкакрыласць поглядаў дзіцячых.
Дакранацца, адчуваць і бачыць,
Як тваім жыццём кіруе лёс.
Развітанне кропляю расы
Ляжа на спрадвечную дарогу.
Застанецца лес, і дзякуй Богу,
Ён схавае нашы галасы.
Развітанне кропляй на ствале
Зноў і зноў прымусіць азірнуцца.
Вось і ўсё. І застаецца лес.
І туды павінна я вярнуцца.

## НАЧНАЯ АБСТРАКЦЫЯ

Куб празрыстай гранню павярнулі
Да стварэння ў медна-шэрым ззянні.
А святла іголкі праслізнулі
І ўпіліся ў твар астатнім граням.
Парушаючы малюнак ночы
У танах бясколерна-счарнелых,
Шар магутны пазіраў аднойчы
У маленькі кубік разамлелы.
Бляскам скуры цела адказала
Погляду нахабнаму сусвету.
Быццам попел, лёгка адляталі
Роздуму апошнія прыкметы.
Вузел, што схапіў дыяганалі,
У паветры пахіснуўся млосным.
Толькі цемру ноч не затрымала
І пусціла ў склеп па сходах росных.
А за ёй — драпежнае свяціла...
Кубік засынаў у стоме рання.
І прыгодай безразважна-мілай
Плёскаліся сны празрыстай грані.

* * *

І што без вас мне горад гэты
У неспатольнасці агнёў,
Дзе абтрасаюць дрэвы лета
На спіны сонных камянёў.
Дзе гукі сцішанага мора
У каляровым б'юцца шкле
І стыне водгалас гісторый
У мяккім сонечным святле.
Дзе больш не сустракацца з вамі,
Бо кожны мае свой парог,
І дзе з асфальту „Io ti amo"
Сцірае шоргат нечых ног.
А восень новы дзень цярушыць,
І сохне лісце на акне.
І паляцяць на поўдзень птушкі
І вам напомняць пра мяне.

* * *

Касцёла гатычнага ўзмах
У змрок вечаровы сплывае.
Яе пазнаюць па вачах —
Жанчыну, якая кахае.

Вільготнае лісце дрыжыць,
Вільготныя вусны трапечуць.
Яна ў гэты час на мяжы
Між лёсам зямным і адвечным.

І вось немаўляці хадой
Праз дрэваў ідзе галерэю
Туды, дзе пад летняй вадой
Альтанкі павольна старэюць.

Так прывід у вежы свае
Заманьвае з д'яблам на пару.
Ілюзія — вочы яе,
Абрыс дасканалага твару.

І зноўку на сотні шматкоў
Паперу мастак разрывае,
Бо фарбаў пакуль не знайшоў
Жанчыне, якая кахае.

* * *

Пад хвалямі сугуччаў птушыных
Гляджу на танюткія травяныя стрэлы.
І бессаромны вецер — мой вартаўнік адзіны —
Малюе на голай спіне мерыдыяны і паралелі.
Дзе вы, далёкія ветразі мора пяшчотна-сіняга?
Пацеркі ракавінак на шыі тугой узбярэжжа?
Сярод сосен напеўных і нератаў павуціння
Прыгадалася моц, што свавольнаму Богу Марскому належыць...

* * *

Я пачула твой голас, калі асыпаўся дождж.
Блакітныя кроплі церабілі празрысты шоўк
І здаваліся матылькамі ў святле ліхтара.
Я пачула твой голас, і на чорныя красавіцкія галінкі
Сышло хараство.
Так пачаўся адлік часу.
Я шукала тваё імя на абпаленым лісці пальмаў,
Якія махалі мне ўслед, калі я ішла да мора.
Я шукала тваё імя на суквеццях далікатнага алеандру,
Што гірляндамі ўпрыгожваў вуліцы, і на чырвані горных макаў.
Я пісала тваё імя каменьчыкам-гладышом на бурштынавым пяску.
Я пісала тваё імя асколкамі ракавінкі на загарэлай скуры,
То апантаныя, то лагодныя хвалі прыносілі мне твой голас.
І прыйшоў час вярнуцца.
Я вярнулася да зялёных дрэў, па целе якіх скочваліся шарыкі вады,
І хацелася кінуць каменьчык у лужыну, каб разбіць неба.
Усё было як і раней, толькі я не чула болей твой голас
І з восеньскіх гравюр знікла тваё імя...
Але гэта не азначала, што спыніцца час.

* * *

Узнімаў на спіне далягляд
Арабескі гуллівага мора.
І здаваўся твой прагны пагляд
Адгалоскам ліловай прасторы.
На каленях сівых берагоў
Бутафорыя домікаў белых.
І адсюль да таемных багоў
Ты па хвалях пабегчы хацела.

Караблі праплывалі не раз,
Неслі покліч Элады далёкай,
І міжволі расплаўлены час
Адкрываў невядомае зроку.
Акварэлі тваіх вечароў
Напаўняліся радасным крыкам.
Як па цэгле пабітых муроў
Рассыпалася золата блікаў.

Пад напевы старых рыбакоў
Рух спыняўся ў паветры самлелым.
Звон цыкад над арнаментам сноў
Абступаў тваё юнае цела.
І запомніла ты назаўжды
Вецер мары, і соль на далонях,
І ліловыя ўспышкі вады.
Будзе мора. Яно абароніць.

# З М Е С Т

**Данільчык А.**

Абрыс Скарпіёна: Вершы/Прадм. В. Коўтун. — Мн.: Маст. літ., 1996. — 79 с. (Першая кніга паэта).

ISBN 985-02-0304-8.

Вершы, якія аб'ядналіся пад назваю «Абрыс Скарпіёна», — вынік уздзеяння свету рэчаў і свету асоб на пэўнага чалавека ў пэўны момант і на працягу пэўнага перыяду. Гэта — фантазія і рэальнасць, колер і гук, статычнасць і зменлівасць.